«НАШАЕ ЖЫЦЬЦЁ» — грамадзкая газэта

# НАША ЖИЗНЬ

«НАША ЖИЗНЬ» — общественная газета

№1(32) январь 2013

# ВЁСКА НА КАРЦІНАХ БЕЛАРУСКІХ МАСТАКОЎ

У Віцебскім краязнаўчым музэі адчынілася выстава твораў, прысвечаных вёсцы Межава Аршанскага раёну. Там улетку мінулага года прайшоў 8-мы мастацкі плэнэр "У пошуках Атлантыды".

Падчас адкрыцця супрацоўнікі музэю падкрэслівалі, што з асаблівым задавальненнем праводзяць выставы менавіта з гэтага плэнэру. Бо ён невыпадкова называецца "У пошуках Атлантыды": яго галоўная мэта - гэта захаванне гістарычнай спадчыны беларускіх вёсак і мястэчак праз мастацкае ўвасабленне.

"Рэгіянальным патрытызмам" называе гэтую ідэю мастачка **Святлана Баранкоўская**, сталая ўдзельніца пленэраў.



Зрэшты, усе ўдзельнікі спадзяюцца, што ім ўдасца данесці ідэю пра неабходнасць захавання прыроднай прыгажосці і гістарычнай спадчыны і да гледачоў, і да тых, ад каго залежыць размеркаванне грашовых сродкаў на гэтыя патрэбы.



У прыватнасці, вёска Межава магла б стаць выдатным турыстычным аб'ектам і месцам адпачынку, каб знайшліся грошы на добраўпарадкаванне і аднаўленне архітэктурных помнікаў.

Вядома, мастакоў заўжды цікавіць і мясцовы побыт вяскоўцаў. Таму сярод твораў, якія прапанаваны віцебскаму гледачу, есць не толькі краявіды, але і пабытовыя замалёўкі, і партрэты мясцовых жыхароў.

Дарэчы, менавіта мясцовыя жыхары заўжды становяцца першымі гледачамі твораў, напісаных падчас пленэраў. Так што імправізаваная выстава ў вёсцы Межава ўжо адбылася. Цяпер карціны экспануюцца ў Віцебску, а потым іх змогуць убачыць жыхары Воршы ды іншых гарадоў.

orshatut.by/2013/01/vyoska-mezhava-na-kartsi-nah-belaruskih-mastakou/

# ВІЦЕБСКАЯ АРГАНІЗАЦЫЯ ПАРТЫІ БНФ – У АБАРОНУ ГІСТАРЫЧНАГА ЦЭНТРА

17 студзеня Віцебская абласная арганізацыя Партыі БНФ за подпісам кіраўніка арганізацыі **Леаніда Аўтухова** накіравала пракурору Чыгуначнага раёна горада Віцебска скаргу на дзеянні галоўнага архітэктара Віцебска **Віталя Дубіка**.

У заяве гаворыцца, што галоўны архітэктар горада нахабна ігнаруе ўмовы аховы гістарычнага цэнтра горада, у прыватнасці, ён даў дазвол на праектаванне палаца ўрачыстасцяў на тэрыторыі былога Ніжняга замка. Таксама адзначаецца, што планы па аднаўленні і новаму будаўніцтву будынкаў у ахоўным цэнтры Віцебска не выносяцца на шырокае абмеркаванне грамадскасці, а вырашаюцца кулуарна, пры гэтым груба парушаецца закон.

Пракурора просяць праверыць ўсе аб’екты новага будаўніцтва ў гістарычным цэнтры Віцебска на адпаведнасць заканадаўству і паведаміць аб выяўленых парушэннях і прынятых мерах заяўніку.


ПАРТЫЯ БНФ
ВІЦЕБСКАЯ АБЛАСНАЯ АРГАНІЗАЦЫЯ

"_17_" студзеня 2013г. № 6/к

Пракурору
Чыгуначнага раёна
горада Віцебска

Скарга

[illegible]

Старшыня
Віцебскай абласной рады партыі БНФ
м.п.
Аўтуховъ Л.А.

# ЗА САЛІДАРНАСЬЦЬ ЗЬ БЯЛЯЦКІМ



Актывіста аргкамітэту па стварэньні партыі БХД **Сяргея Малашэнку** гарадзкі суд Наваполацку прызнаў вінаватым у правядзеньні несанкцыянаванай акцыі.

Судзьдзя **Зоя Балаболава** прысудзіла Сяргею Малашэнку штраф памерам 25 базавых велічынь.

Доказам вінаватасьці хлопца сталі фотаздымкі, размешчаныя ў інтэрнэцэ: Сяргей Малашэнак разам зь яшчэ адным наваполацкім актывістам **Яўгенам Парчынскім** сфатаграфаваліся, трымаючы у руках партрэты Алеся Бяляцкага, на ганках Наваполацкага гарадзкога суду. Сяргей Малашэнак сфатаграфаваўся і на ганку мясцовага адзьдзяленьня міліцыі.

24 студзеня Яўгену Парчынскаму быў прысуджаны штраф памерам 5 базавых велічынь. Сяргею Малашэнку прысудзілі штраф у 5 разоў большы, бо цягам году яго ўжо другі раз судзяць за правядзеньне несанкцыянаванай акцыі: 8 кастрычніка 2012 году яму быў прысуджаны штраф памерам 300 тысяч рублёў (3 базавыя велічыні) за спробу павесіць расьцяжку «Свабоду палітзьняволеным!»

# НА РЭСТАЎРАЦЫЮ КЛЯШТАРА

**Мікола Купава робіць першы ўнёсак на рэстаўрацыю кляштара Базыльянаў**

Мастак прадае свае працы і мастацкія альбомы "Янка Купала ў творчасці Міколы Купавы" і "Якуб Колас у творчасці Міколы Купавы". 65% атрыманых ад продажу сродкаў пойдуць на рэстаўрацыю былога базылянскага кляштара.

31 студзеня ў Дзяржаўным літаратурна-мемарыяльным музэе Якуба Коласа адбылася прэзентацыя мастацкага альбомаў "Янка Купала ў творчасці Міколы Купавы" і "Якуб Колас у творчасці Міколы Купавы". У альбомы увайшлі творы, выкананыя выкананыя мастаком ў рознай тэхніцы ў перыяд з 1974 па 1999 гады.

Падчас прэзентацыі альбомы былі высока ацэненыя як крытыкамі, так і роднымі Якуба Коласа. У прыватнасці, станоўчы водгук выказаў малодшы сын Якуба Коласа **Міхась Міцкевіч**. У альбом увайшлі ў тым ліку і некалькі твораў, прысвечаных вёсцы Ляўкі.

Некалькі чалавек набылі альбомы. А яшчэ да таго мастак падчас выставы ў віцебскай прыватнай галерэі "Сцяна" выставіў на продаж шэраг сваіх карцінаў, і большая частка даходу ад некалькіх прададзеных твораў якіх таксама будзе накіраваны на рэстаўрацыю помніка архітэктуры.

Далучыцца да кола ахвярадаўцаў могуць і ўсе іншыя беларускія мастакі, гатовыя ахвяраваць частку грошай, выручаных ад продажу сваіх карцін. Ахвяраваць сродкі на аднаўленне будынка базыльянскага кляштара можа і кожны ахвотны.

# АДЗНАЧЫЦЬ ДЗЕНЬ ВОЛІ РАЗАМ

**У Віцебску створаная кааліцыя па супольным сьвяткаваньні Дня Волі 25 сакавіка.** У склад кааліцыі ўвайшлі большасьць апазыцыйных палітычных сіл, што дзейнічаюць на тэрыторыі вобласьці: Партыя БНФ, Рух «За свабоду», аргкамітэт па стварэньні партыі «Беларуская хрысьціянская дэмакратыя», Беларуская сацыял-дэмакратычная партыя (Грамада) і незарэгістраваная БСДП (Народная Грамада). Старшынём кааліцыі абраны Леанід Аўтухоў, кіраўнік абласной арганізацыі партыі БНФ.

Удзельнікі кааліцыі прынялі рашэньне ў Дзень Волі зладзіць мітынг. Адпаведная заяўка на яго правядзеньне будзе пададзеная ў адміністрацыю Чыгуначнага раёну Віцебску. Мітынг мусіць адбыцца ў месцы, адведзеным уладамі пад масавыя мерапрыемствы, – у парку чыгуначнікаў, побач са стадыёнам «Лякаматыў». Мяркуецца, што ў акцыі возьмуць удзел дзясяткі жыхароў Віцебску.

# ВЫЙШАЎ ДЫСК БЕЛАРУСКІХ ШКОЛЬНЫХ СПЕВАЎ

Такі праект быў неабходны Беларусі. **Таццяна Матафонава** разам з зорнай камандай артыстаў запісала двайны дыск, які проста абавязаны быць у кожнай класе і ў кожным доме.

Праект завецца "Няма прыгажэй ад маёй Беларусі", хоць мог звацца прасцей і больш ясна – "Наша школа", напрыклад. У якасці назвы быў скарыстаны радок з верша Артура Вольскага. На першым дыску сабраныя вершы пра школу і навучанне, а таксама песенькі, якія можна выкарыстоўваць падчас школьных святаў, лінеек, званкоў, выпускных. На другім – начытаныя вершы і наспяваныя песні на вершы, якія дзеці вучаць на памяць па школьнай праграме. **Купалу, Коласа, Багдановіча, Гаруна, Труса, Танка, Панчанку, Куляшова, Барадуліна, Бураўкіна, Вярцінскага** чытаюць і спяваюць **Таццяна і Адась Матафонавы, Зінаіда Бандарэнка, Лявон Вольскі, Сяргей Дубавец, Юрась Жыгамонт, Таццяна Беланогая, Сяржук Сокалаў-Воюш, Зміцер Бартосік, Генадзь Бураўкін, Анатоль Вярцінскі.** Усяго 106 трэкаў у аўдыёфармаце!

У Таццяны Грыневіч-Матафонавай падчас паездак і з'явілася ідэя выдаць дыск беларускіх песняў для школы. Пагатоў, яе сын Адась якраз пайшоў тады ў школу. Справа на першы погляд няпростая. **Тамара Мацкевіч** з Таварыства беларускай школы кажа, што калі яны надумалі зрабіць адукацыйны мультымедыйны праект "Гадуем беларусаў" і пачалі збіраць для яго тэксты, відэа і аўдыё, то зразумелі, што беларускіх песняў пра школу папросту няма…

Дар'я Міхайлоўская

# ПАСЯДЖЭННЕ ПОЛАЦКІХ ДЭМАКРАТАЎ

Адбылося чарговае пасяджэнне Каардыцыйнай Рады Полацкай кааліцыі Аб'яднаных Дэмакратычных Сіл.

Раскаваае **Яўген Вільскі**, кіраўнік Полацкай гарадской арганізацыі БСДП (Грамада): На пасяджэнні былі падведзены вынікі працы за справаздачны перыяд, заслуханы справаздачы кіраўнікоў суб'ектаў кааліцыі і вызначаны планы на будучыню. Хочацца адзначыць, што да сяброў кааліцыі далучыўся шосты суб'ект палітычнага жыцця рэгіёна...

Першымі пытаннямі, якія былі разгледжаны на сумесным пасяджэнні - справы аб палітвязнях, інфармацыя аб лёсе А.Гайдукова. Удзельнікі пасяджэння прынялі рашэнне працягваць працу па арганізацыі і правядзенню пікетаў у рэгіёне з мэтай выказвання пратэсту супраць сацыяльна-эканамічнай палітыкі улад.

Прынята рашэнне на наступным пасяджэнні, якое адбудзецца пасля святаў, пачаць працу па падрыхтоўкі да выбараў у мясцовыя Саветы і да гэтай размовы будуць запрошаны ўсе зацікаўленыя бакі.

Абмеркаваны пытанні аб шэфскай працы над дзіцячымі установамі рэгіёна, арганізавацыі і правядзенні святочных мерапрыемстваў, наведаваннях музеяў і інш. Для наладжвання сувязей і кантактаў з насельніцтвам рэгіёна прынята рашэнне аб адкрыцці электроннай скрыні ў інтэрнеце і абанентнай скрыні на пошце.

У сувязі з антынароднай палітыкай улад, ростам коштаў на тавары і паслугі, "рабскімі" дэкрэтамі, спробамі звольніць з працы сяброў і лідэраў Свабоднага Прафсаюза Беларускага завода "Шкловалакно", нацiскамі і арыштамі сяброў палітычных партый, прынята рашэнне звярнуцца да жыхароў рэгіёна са зваротам аб іх больш смелым і рашучым удзеле па абароне сваіх сацыяльна-эканамічных правоў і свабод, супраць росту коштаў на тавары і паслугі, дыскрымінацыі працоўных і сябраў незалежных прафсаюзаў, грамадскіх актывістаў.

Пра нас чытайце у інтэрнэце на сайтах: www.freeregion.info, www.ximik.info ці дасылайце электронныя лісты на адрас: polcoalition@tut.by

# АПАЛЬНАГА ПЭДЫЯТРА ЎЛАДКАВАЛІ ПСЫХІЯТРАМ

Лекар зь Віцебску **Ігар Пасноў**, які быў звольнены з ранейшай пасады пэдыятра па скарачэньні, як ён кажа — з-за крытыкі мясцовых уладаў, працаўладкаваўся псыхіятрам.

«Пахадзіў я пахадзіў, спачатку прыйшоў зьдзеклівы



адказ з абласнога ўпраўленьня аховы здароўя, маўляў, едзьце на раён, зьвярніце на біржу, мы дапаможам вам з перасяленьнем. Я стаў на чаргу на біржы. Потым мне прыйшло прызначэньне лекарам-псыхіятарам у абласную бальніцу. Сёньня першы дзень. Але гэта параноя ўлады. Мяне лекара з 15-гадовым стажам лекара-пэдыятара накіравалі працаваць па асноўнай маёй спэцыяльнасьці лекара-псыхіятара. У нас на ўчастках лекараў-пэдыятраў не хапае. А мяне не бяруць, кажуць — няма месцаў. Людзі па два ўчасткі вядуць, школы пустыя».

Ігар Пасноў адрэагаваў на заявы Лукашэнкі падчас наведваньня Рэспубліканскага навукова-практычнага цэнтру нэўралёгіі і нэўрахірургіі:

«Я пакуль ня ведаю, які ў мяне будзе заробак. Але, напэўна, у лекара-псыхіятра больш, бо тут за шкоднасьць. Як лекар-пэдыятар я атрымліваў 1 мільён 800 тысяч рублёў. Гэта ж насамрэч зьдзеклівыя заробкі. За такія заробкі лекары ня пойдуць працаваць. І наагул, нармальна працаваць за мільён 800 тысяч ніхто ня будзе. Пачаць трэба, канечне, з падвышэньня заробкаў. Санітаркі капейкі атрымліваюць. Як зь яе, беднай, спытаеш, калі яна капейкі атрымлівае?»

Паводле Паснова, улада – прынамсі віцебская – вельмі мала займаецца мэдыцынай:

«Толькі на словах усё гэта адбываецца. Рамонт інфэкцыйнай бальніцы ідзе тры гады. У якіх умовах лекары працуюць? Магчыма,трэба скарачаць кіроўны апарат у мэдыцыне. Калі ўжо брацца за скарачэньне дзяржапарату, то трэба гэта чэсна разабраць і чэсна вырашыць».

Ігар Пасноў кажа, што лекары зьяжджаюць на працу ў Расею, прынамсі такіх многа сярод яго знаёмых: «Без праблем. У Расеі аклады нашмат вышэй, даўно 500 даляраў і больш. І ня толькі на словах. Да таго ж там неяк прасьцей уся гэтая сыстэма».

Сталы слухач Радыё Свабода доктар зь Віцебску Ігар Пасноў напрыканцы мінулага года запісаўвідэазварот і выклаў яго на YouTube.

«Я хачу паказаць, наколькі бяспраўныя сёньня мы, мэдычныя работнікі. Мала таго, што атрымліваем капейкі, дык яшчэ з кожным з нас можна, як з сабакам, расправіцца. І наколькі галаслоўныя іх словы, што яны клапоцяцца пра дзяцей, пра пацыентаў, пра жыцьцё людзей», — сказаў тады Ігар Пасноў у сваім відэазвароце.

**«НАША ЖИЗНЬ»** - общественная газета. Издатель - коллектив редакции. Выходит нерегулярно. Тираж **299** экземпляров. Редактор - **Христафор Желяпов**. Вёрстка - **Сергей Солидный**. Напечатана на частном оборудовании на свои средства и с помощью единомышленников.
**http://kamunikat.org/naszaje_zyccio.html**

# ВЫСТАВУ ПРЫСВЯЦІЛІ ПАМЯЦІ ВАСІЛЯ БЫКАВА

**26 снежня ў Віцебсім музеі мастацтва адчынілася выстава, прысвечаная памяці сусветна вядомага пісьменніка Васіля Быкава. Яна з'вілася вынікам працы мастакоў, якія прадстаўлялі амаль усе рэгіёны краіны.**

Імпрэза пачалася з выступу **Вольгі Іванаўны Акуневіч**, дырэктара музея мастацтва, якая распавяла прысутным (а іх было сотні паўтары, а можа і больш) аб значэнні Васіля Уладзіміравіча ў беларускім мастацтве. Яна высока ацаніла мастацкія працы, прадстаўленыя на выставе.

Аб натхняючай сіле быкаўскага таленту выказаліся мастакі, удзельнікі драздовіцкага пленэру, які праходзіў у жніўні ў Бычках і быў прысвечаны любімаму пісьменніку, – **Святлана Баранкоўская,**



**Чэслаў Шамшур, Уладзімір Вальноў, Міхась Цыбульскі, Алесь Саўчанка.** Шмат было партрэтаў пісьменніка. І кожны з іх па-свойму падаваў асобу Быкава. З вялікім мастацкім густам былі прадстаўлены родныя быкаўскія мясціны, яго сваякі.

Упрыгожылі свята і лепельскія музыкі пад кіраўніцтвам таленавітага музыкі і арганізатара



**Васіля Шкіндзера.** Дзяўчаты з вакальнага гурта "Поўнач" праспявалі народныя песні і арганізавалі старадаўнія танцы пад дуду і бубен. Тут і лянівы ўстаяць не мог. У скокі пусціліся і старыя, і маладыя. Такой весялосці на выставах мне не даводзілася бачыць.

Развіваючыся, наведвальнікі дзякавалі нам і казалі, што такой выставы і такога адкрыцця яшчэ не было. Гэта і ёсць вышэйшая ацэнка нашай дзейнасці. Пасля такога хочацца жыць і працаваць яшчэ лепш.

Ада Райчонак

# МЁРЫ ЦІ МІЁРЫ?

Артыкул пад такім загалоўкам у ліпеньскім нумары газеты "Звязда" не пакінуў мяне раўнадушным. Калі мы сапраўды маем намер захаваць сваю нацыянальную самабытнасць, свабоду і незалежнасць, калі нам дарагое наша гістарычнае мінулае, а будучыню будзем імкнуцца ўзводзіць на трывалым падмурку, на ўсведамленні шляху, які прайшоў наш народ, то адказ на пытанне аб вяртанні ранейшых назваў населеных пунктаў і іншых аб'ектаў адназначны. Райцэнтр павінен мець назву Мёры! Спасылка на тое, што мы да многага прывыклі і гатовы цярпець здзекі над сваім мінулым, гучыць неяк па-блюзнерску.

Яшчэ можна пачуць тэзіс аб тым, што ад таго, што мы будзем гаварыць і пісаць Мёры, а не Міёры, — каўбасы не прыбавіцца, сведчыць толькі аб духоўнай і маральнай дэградацыі. А калі глядзець глыбей, то ў канчатковым выніку колькасць нашай каўбасы якраз і залежыць ад нашай свядомасці, ад павагі да сваіх традыцый, нарэшце, ад нашай беларускасці. І справа далёка не ў тых грашах, якія затрацім на змяненне назваў гарадоў і вуліц. Нярэдка значныя сумы выдаткоўваюцца і на менш патрэбныя рэчы.

Каб выглядаць "паўнацэннымі" перад суседзямі, мы нават свае прозвішчы, атрыманыя ад продкаў, дапаўнялі не ўласцівымі традыцыям канчаткамі, у іншых перастаўлялі націск.

А ў якой краіне знаходзіцца горад, дзе вуліцы носяць імёны **Леніна, Калініна, Кірава, Фрунзе, Арджанікідзе, Куйбышава, Чапаева, Чкалава, Паўліка Марозава, Кутузава, Суворава, Тэльмана**? На жаль, гэта наша Дзісна. Неяк паспрабаваў высветліць, у гонар якой знакамітай асобы адна з вуліц самага маленькага горада Беларусі носіць імя Смірнова. Аказалася, што 12 Смірновых з'яўляюцца Героямі Савецкага Саюза, 3 — Героямі Сацыялістычнай Працы, столькі ж — дактарамі навук, прафесарамі, акадэмікамі і артыстамі, але ні адзін з іх да нашых мясцін не мае ніякіх адносін. Як і названыя вышэй, вядомыя па гісторыі СССР дзеячы.

Жадаем зрабіць Дзісну аб'ектам турызму? Цудоўна! Тут некалі былі два замкі, але няма вуліцы Замкавай. Затое ёсць вуліца Каперніка і маршала Маліноўскага.

Калісьці па дзісенскай брукаванцы хадзілі **Язэп Драздовіч, Ігнат Буйніцкі**, іншыя вядомыя земляні, няўжо яны не заслугоўваюць нашай памяці? Цудам захавалася вуліца Полацкая, ды завулак ля яе атрымаў назву Дзісенскага. Вось і ўся наша гісторыя.

Калі мы паважаем сябе, калі мы паважаем сваю гісторыю, то павінны захоўваць уласную самабытнасць. Так што і нашы Міёры павінны быць толькі Мёрамі.

тэкст: Ф. Шымуковіч
крыніца: mijory.by
gedymin.livejournal.com